Маладзёвы Весьнік

№7(12) Чэрвень 1998 Выданьне Маладога Фронту

# СЕВЯРЫНЕЦ НА ВОЛІ!

*Але банальна бракавала грошай, і акторы пачалі шукаць іншыя тэатры, ствараць свае міні-студыі ды клюбы. Урэшце, адзін зь іх увогуле заявіў, што сцэнар яму непадабаецца, у труне ён яго бачыў (што, дарэчы, магчыма), і што рэжысэра можна знайсьці значна лепшага.*
**The show must go on - ст.2**

*Поўная зьмена кіраўніцтва МВ. Галоўным рэдактарам становіцца Халіп, намесьнікам — Барбарыч, а выдаўцом, канешне ж, Шчукін.*
**Двубой – ст.4**

*Дык, што ж гэта за БНР і навошта быць яе грамадзянінам?*
**Нашая дзяржава – ст.7**

Севярынец на волі. Мы змагаліся, спадзяваліся й верылі — і ўсё адно вызваленьне Паўла аказалася раптоўным. Літаральна папярэднім днём быў афіцыйна падоўжаны тэрмін зьняволеньня. Але гэта быў блеф. У іх ужо здалі нэрвы. Ім толькі й заставалася ня даць падрыхтавацца да сустрэчы, якая б непазьбежна абярнулася палітычнаю маніфэстацыяй, хоць крышку прытрымаць інфармацыйную хвалю, неяк прыкрыць сваё адступленьне.

Мы яшчэ раз перамаглі. Мы выйгралі — пакуль яшчэ не вайну, але вельмі важную бітву. Мы перамаглі перадусім сваю няўпэўненасьць ды веру ў неабмежаваныя магчымасьці дыктатара. Мы — магчыма, упершыню — гатовыя былі йсьці да канца, і рэжым пасьпешліва адступіў. Зараз ужо тры маладафронтаўцы, якія пасьпяхова прайшлі загартоўку зьняволеньнем, ізноў на волі. Кожны выдатна разумее — гэта не дабрыня акупанта. Дыктатар з асалодаю загадаў бы расстраляць нашых сяброў ды нас разам зь імі. Але збаяўся. Злучаная энэргія тысячаў наэлектрызавала паветра. І тыя, хто падпісаўся пад патрабаваньнем вызваленьня, і тыя хто выходзіў на вулічныя акцыі, і тыя хто пісаў (хоць на сьцяне, хоць у газэце) "Свабоду палітвязьням!"— кожны зрабіў унёсак у магутны рух беларускае салідарнасьці. Гэта нашая з вамі агульная перамога. Не апошняя.

Дзякуй усім, хто з намі! І не забывайма — галоўны бой у нас наперадзе.

*Канешне, уразіў іх факт зьяўленьня надпісу на сьцяне такой саліднай установы (паўсюдныя графіці сталі ўжо звыклым атрыбутам менскіх будынкаў), але шакаваў узрост "злоснага хулігана" — доўгая сівая барада падказвала, што гэты чалавек даўно ўжо павінны жыць ціха-мірна на сваю адпрацаваную на сацыялістычных будоўлях пэнсію.*
**Калёнка капітана Шчукіна – ст.2**

*Дарэчы, падчас суду высьветлілася, што ва ўжо падпісаныя пратаколы пазьней былі ўнесеныя зьмены. Так, дробязь, але мэтады дзеяньняў "праваахоўчых" органаў ілюструе выдатна.*
**Мы змагаемся, і мы перамогжам! – ст.6**

## Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

24 лютага засуджаны на паўтары гады пазбаўленьня волі за надпісы "Жыве Беларусь!", "Я люблю Беларусь!". У турме быў зьбіты і пазбаўлены лекаў. Выкінуты з унівэрсытэту. У траўні Вярхоўны суд адхіліў апэляцыю. Мы працягваем змагацца за цябе, Аляксей!



**Не спыняйся! Аляксей Шыдлоўскі ўсё яшчэ ЗА КРАТАМІ!**

# THE SHOW MUST GO ON...

*працягвецца наш палітпарад*

Заснаваная ў хуткім часе пасьля непазьбежнага развалу “вялікага й магутнага” ў выніку групавога акту волевыяўленьня кіраўнікоў свабодных, на той момант, рэспублікаў Садружнасьць Незалежных Дзяржаваў многімі палітычнымі дзеячамі й простымі жыхарамі постсавецкіх краінаў была ўспрынятая як грандыёзнае шоў, разьлічанае на лацьвавернага заходняга гледача, якое мусіла прадэманстраваць палітычную, этнічную, рэлігійную й іншых кшталтаў еднасьць праваслаўных славянаў ды іншых азіёпскіх народаў, а таксама недвухсэнсоўна акрэсьліць геапалітычныя інтарэсы Расеі. Але ж СНД была падобная на сумнавядомую “хваробу веку” ня толькі абрэвіятурай. Садружнасьць несла ў сабе такую ж небясьпеку для жыцьця. Дамова пра калектыўную бясьпеку сталася толькі адной з магчымых праяваў, і мусіла працаваць паводле ранейшае схемы — самы нахабны й дурны ўвязваецца ў бойку, а атрымоўваюць усе разам. Толькі “рэспублікі-сёстры” павінныя выступаць у выглядзе старых сяброўак.

Сцэнар прадугледжваў паступовае — каб заўчасна не спалохаць — вяртаньне ў імпэрыю. Але банальна бракавала грошай, і акторы пачалі шукаць іншыя тэатры, ствараць свае міні-студыі ды клюбы. Урэшце, адзін зь іх увогуле заявіў, што сцэнар яму непадабаецца, у труне ён яго бачыў (што, дарэчы, магчыма), і што рэжысэра можна знайсьці значна лепшага. Пры гэтым ён прыціскаў руку да грудзей у тым месцы, дзе ў людзей знаходзіцца сэрца й казаў, што сама п'еса яму страшэнна падабаецца. У трупе пачаліся хваляваньні, тэатар губляў гледачоў. І рэжысэр пайшоў на рашучы й роспачны крок — ён зьмяніў кастумэра...

Новы выканаўчы сакратар СНД Беразоўскі поўны рашучасьці. Ён гатовы ўрэгуляваць усе непаразуменьні, зрэалізаваць новыя йдэі ды знайсьці для Садружнасьці “Wege in die Zukunft”. Ён не баіцца цяжкасьцяў. Ён зробіць усё, каб Садружнасьць жыла.

Часткі сэрца разьлятаюцца ў розныя бакі. Кавалкамі звальваецца з твару грым, адкрываючы сапраўднае аблічча. Прывід СНД блукае па абшарах былога “Саюзу”. Значыць, як казаў адзін паэт, гэта камусьці трэба.

Шоў мусіць працягвацца.

**Freddy MERCURY**



# КАЛЁНКА КАПІТАНА ШЧУКІНА

У 14 дзень чэрвеня 1998 г. мінакі, што праходзілі праспэктам Скарыны, побач з будынкам КДБ, які вядомы менчукам пад назваю “жоўтага дому”, сталі сьведкамі незвычайнае падзеі. Канешне, уразіў іх ня факт зьяўленьня надпісу на сьцяне такой салідная ўстановы (паўсюдныя графіці сталі ўжо звыклым атрыбутам менскіх будынкаў), але шакаваў узрост “злоснага хулігана” — доўгая сівая барада падказвала, што гэты чалавек даўно ўжо павінны жыць ціха-мірна на сваю адпрацаваную на сацыялістычных будоўлях пэнсію. Незвычайнаю падалася й тая акалічнасьць, што сівабароды парушальнік гэбэшнага спакою зусім не імкнуўся распусьціцца ў паветры, як і належыць кожнаму майстру насьценнае справы, а наадварот — дэманстратыўна нарываўся на затрыманьне.

Ну канешне, мы ўсе яго пазналі! Нязломны капітан Шчукін выйшаў на праспэкт, каб выказаць свой пратэст супраць зьняволеньня дэпутата Клімава, і, натуральна ж, адправіцца на звыклыя дошкі нараў спэцразьмеркавальніку. Напачатку, самы калярытны апазыцыянэр, баючыся не пасьпець да зьяўленьня патрулю, так сьпяшаўся, што нават зрабіў памылку. Але, здаецца, у міліцыянтаў быў ці то абед, ці то пераўлік — ніхто на даляглядзе не зьяўляўся. Сп. Шчукін нават захваляваўся — колькі ж стаяць прыйдзецца?!— і стаў старанна абводзіць літары яшчэ раз, каб ні ў каго не было сумневу ў тым, што гэта менавіта ягоны надпіс. Абводзіць давялося двойчы. Урэшце зьявіўся самотны міліцыянт і уважліва агледзеў апазыцыйную постаць капітана. Затым паспрабаваў прачытаць надпіс, і, відаць, спасаваў, бо трохі памарудзіўшы выклікаў праз рацыю дапамогу. Барадаты дэпутат сьціпла ды годна чакаў ля свайго надпісу, пакуль міліцыянты знойдуць экспэрта на чытаньне падазроных літараў. Праз каторысьці час да ходніку насупраць капітанскае фігуры прытарнаваліся некалькі аўтамабіляў, зь якіх выйшлі адукаваныя асобы, прачыталі надпіс і аддалі загад. Навочныя сьведкі сьцьвярджаюць, што Шчукін з палёгкай уздыхнуў, калі яго пацягнулі, урэшце, у машыну. Наступным днём судзьдзя даў 10 суткаў. Апэрацыя ўдалася.

*P. S. Маладафронтаўцы не маглі не адзначыць арыгінальнасьць і гумар апісанай акцыі. У якасьці прызу капітану арганізавалі перадачу.*

# КРАХ ІМПЭРСКАЕ ПАЛІТЫКІ

*да ўвагі прыхільнікаў рэанімаваных імпэрыяў*

Рэакцыя Захаду на гвалт у Косава была катэгарычнаю: альбо Мілошавіч зьменіць сваю палітыку да косаўскіх альбанцаў, альбо NATO будзе прадпрымаць жорсткія захады аж да ўдару па югаслаўскіх вайсковых аб'ектах. Самыя ж косаўскія альбанцы гатовыя яшчэ больш рашуча адстойваць сваю незалежнасьць ад Бялграду (вядома, што іхнае падпольнае войска зараз налічвае каля 30 тыс. байцоў). Абвастрэньне было выклікане вайсковай апэрацыяй югаслаўскіх аддзелаў супраць косаўцаў. Першыя, з выкарыстаньнем гарматаў ды бранетэхнікі, фактычна праводзілі этнічную чыстку на тэрыторыі Косава. Што, безумоўна, выклікала новую хвалю супраціву з боку альбанцаў.

Відаць, Мілошавічу ў бліжэйшы час спакойна спаць не давядзецца. Косаўцы — бунтуюць, НАТА — пагражае, а тут яшчэ й саюзная Чарнагорыя, якая не жадае больш быць малодшай сястрой Сэрбіі, ўзьнялася. Там у выніку нядаўніх парляманцкіх выбараў свае пазыцыі ўзмацнілі апанэнты аўтарытарнага бялградзкага рэжыму. Новы малады лідэр Чарнагорыі Джуканавіч патрабуе ўсталяваць роўнасьць рэспублікі ў складзе фэдэральнай Югаславіі. Здавалася б, якое дачыненьне мае да Беларусі цяперашні косаўскі крызыс. У нашай краіне няма вострых варожых сутыкненьняў. Але калі ўважліва ўгледзецца ў югаслаўскую драму, можна зрабіць шмат розных высноваў. І галоўная зь іх: імпэрская палітыка, якімі б лёзунгамі яна ні прыкрывалася, асуджаная на паразу. Хай гэта паслужыць добрым прыкладам для тых, хто гэтак заўзята выступае за аб'яднаньне з Масквою.

Ня шкодзіла б гэта наматаць на вус і крамлёўскім стратэгам, якія будуюць пляны паглынаньня Беларусі. Рана ці позна яны трапяць бы шчупак у нерат, падобна "чырвонаму" югаслаўскаму лідэру Слабадану Мілошавічу.

**Алеся ВОЛЬНАЯ**

Прэс-рэліз Маладога Фронту:

# ЭЎРАПЕЙСКІЯ КАНСЭРВАТАРЫ ЗА БЕЛАРУСЬ!

З 5 па 10 чэрвеня ў шатляндзкім горадзе Глазга прайшло чарговае паседжаньне Эўрапейскіх Маладых Кансэрватараў (European Young Conservatives — EYC), на якім прысутнічалі прадстаўнікі кансэрватыўных партыяў каля трыццаці краінаў. Рэспубліку Беларусь прадстаўлялі актывісты Маладога Фронту, які таксама зьяўляецца сябрам EYC, Натальля Маковік і Андрэй Пятроў. Адным з самых гарачых пытаньняў, што абмяркоўваліся на канфэрэнцыі, было палітычнае становішча ў Рэспубліцы Беларусь. З дакладам пра апошнія падзеі і пра рэпрэсіі супраць актыўна настроенай моладзі, пра маладых вязьняў сумленьня і лёс нацыянальнага маладзёвага лідара Паўла Севярынца выступіла прадстаўнік міжнароднае камісіі Маладога Фронту Натальля Маковік. Па гэтым пытаньні выступілі амаль што ўсе ўдзельнікі канфэрэнцыі з рознымі прапановамі. У дакладах некаторых выступоўцаў былі акрэсьленыя вынікі Кампаніі "Вольная Беларусь" ("Free Belarus Campaing"):

— створаная старонка ў Інтэрнэце, на якой штотыдзень зьяўляюцца новыя зьвесткі пра палітычную сытуацыю ў Беларусі, пра дзейнасьць Маладога Фронту й іншых апазыцыйных маладзёвых арганізацый.

— польскія маладыя кансэрватары рыхтуюць дэлегацыю, якая ў хуткім часе павінна наведаць Беларусь з мэтаю сустрэчы з іншымі актывістамі Маладога Фронту й правядзеньня шэрагу сэмінараў.

— кансэрватыўныя партыі некаторых краінаў плянуюць распачаць выпуск бюлетэняў, мэтай якіх будзе зьяўляцца інфармаваньне эўрапейскага грамадства пра сытуацыю ў Беларусі, пра дзейнасьць беларускіх апазыцыйных арганізацый.

Найбольш эмацыйна удзельнікі канфэрэнцыі ўспрынялі паказ фільма "Звычайны прэзыдэнт", які актывістам Маладога Фронту ўдалося правезьці праз беларускую мытню. Пасьля гэтага кансэрватары Летувы, Расеі, Нямеччыны, Шатляндыі вырашылі накіраваць свае дэлегацыі ў Менск на адну з бліжэйшых апазыцыйных вулічных акцыяў.

Наступнае паседжаньне Эўрапейскіх Маладых Кансэрватараў мае адбыцца на пачатку верасьня ў Ісьляндыі, дзе плянуецца прыняць зварот да кіраўнікоў усіх эўрапейскіх краінаў з просьбай спыніць прамыя кантакты з беларускім дыктатарам Лукашэнкам як з прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь і з прадстаўнікамі "новага" парляманту – так званай "палатай". Такім чынам, маладыя ўсяе Эўропы аб`ядналася дзеля барацьбы з акупацыйным рэжымам, барацьбы дзеля абароны правоў беларускае моладзі.

***Прэс-служба Маладога Фронту.***
*15 чэрвеня 1998 г.*

*Жыцьцё маладафронтаўца, як ведама,— няспынны бой. Парцягваецца ён і на старонках МВ. Сёньня вашай увазе мы прапануем паўфінальную схватку сапраўдных Прафэсіяналаў друкаванага слова й Уладароў газэтных старонак — журналістаў. Перад іхным майстэрствам ужо склалі зброю Фізычная моц (Лявон Васючэнка) і Прыгажосьць (Натальля Маковік). У фінале нэрвова чакае Бізнэс (Віктар Несенчук).*

Сустракайце: у левым куце — **Руслан БАЦЯНКОЎ**, справа — **Вольга АНЦЫПОВІЧ**. Паехалі! Хай пераможа мацнейшы!

## Чым, на Ваш пагляд, адрозьніваюцца паміж сабою "чэсныя" й "нячэсныя" журналісты?

"Нячэсныя" журналісты чэсна гавораць "бацьку", што ён "нехарошы", а "чэсныя" нячэсна сьцьвярджаюць, што любяць яго. Спытайце, ў нефармальных варунках, у любога "чэснага", як ён да такой жытухі дакаціўся, і ён табе адкажа: "Ну, ты ж разумееш, стары, у мяне ж сям'я й разнапопыя дзеці".

Выразам твару. У "чэсных" ён вельмі ўжо дзіўны. Можа ад вялікае "чэснасьці". А яшчэ тым, што "нячэсныя" імкнуцца хоць нешта зрабіць карыснае для краіны (гучна кажучы), людзей, свайго выданьня. А "чэсныя", мабыць, хочуць значна менш — толькі захаваць свой дзіўныдзіўны, чэсны-чэсны выраз твару.

## Журналіст — гэта: стан душы, лад жыцьця, спосаб існаваньня ці штосьці іншае?

Таму, хто сфармуляваў гэтае пытаньне, трэба паставіць прыжыцьцёвы помнік. Вечны пошук адказаў на 7 пытаньняў —"дзе? калі? куды? адкуль? чаму? навошта? і як?"— не дае спыніцца, агледзець самога сябе й наіўна запытаць: "А ты, уласна кажучы, хто такі?"

Хутчэй за ўсё стан душы. Бо вядучы нармальнае журналісцкае жыцьцё вельмі цяжка, на мой пагляд, існаваць ці тым больш жыць, калі няма пэўных рысаў характару, адметных якасьцяў і г.д. Лад жыцьця й спосаб існаваньня ўжо проста дадаюцца да гэтага. А ўвогуле, ну і пытаньні ў вас, шаноўная рэдакцыя. Яшчэ адзін раз — і я дакладна ніколі не дажыву да атрыманьня дыплёму журналіста.

## Як далёка, на Вашую думку, могуць зайсьці дачыненьні паміж маладафронтаўцамі й незалежнымі журналістамі?

Шаноўнае маладафронтаўскае спадарства заўважыла, натуральна, як лёгка наш брат зьмяняе прафэсію. Якія акцыі апошняга сэзону былі найбольш удалымі? Правільна, журналісцкія! Хто вытрываў больш за іншых у маладафронтаўскіх конкурсах? Мы, і ніхто, акрамя нас. Таму... (гл. наступны адказ)

Два варыянты: альбо аб'яднаньне ў адну грамадзкую арганізацыю (калі журналісты будуць добра інфармаваць грамадзкасьць аб дзейнасьці МФ), альбо поўны байкот МФ на старонках незалежных выданьняў (яшчэ адзін Двубой з такімі пытаньнямі і ўсё!).

## Як Вам бачыцца будучыня МВ?

...прагноз "адназначный": поўная зьмена кіраўніцтва МВ. Галоўным рэдактарам становіцца Халіп, намесьнікам — Барбарыч, а выдаўцом, канешне к, Шчукін. Што з гэтага выйдзе, ня цяжка прадказаць: для паперы на выданьне аднаго нумару ня хопіць усіх амазонскіх джунгляў разам узятых.

Магчымыя варыянты: 1) МВ будзе выдавацца на дрэннай паперы й распаўсюджвацца праз каналы турэмнае пошты, бо ня толькі выдаўцы, але й чытачы будуць у адпаведных установах; 2) рэдакцыя эмігруе. МВ будзе выдавацца на добрай паперы і распаўсюджвацца на віртуальных абшарах БНР, як дадатак да "Бел. Ведамасьцяў"; 3) У рэдакцыі ўсё ж зьявяцца журналісты, і МВ будзе ня толькі распаўсюджвацца, але й чытацца. І тады "Весьнік" стане самым папулярным выданьнем на Беларусі.

# РОК ЗА СВАБОДУ



Гэта была, бадай, адна з самых адметных акцыяў Маладога Фронту. Хаця б таму, што скончылася яна не зьбіцьцём ды арыштамі (як зазвычай), а цудоўным рок-канцэртам.

Шэсьце, што пачалося з пляцу Якуба Коласа, прайшло даволі мірна. Адінае, што раздражняла,— шматлікасьць гэбэшных камэраў, якімі на працягу ўсёй акцыі суправаджаліся бел-чырвона-белыя калёны. І нават у Купалаўскім сквэры, дзе праходзіў канцэрт, апэратары з "канторы" ўсё здымалі ды здымалі... Мабыць, замахнуліся на суцэльны сэрыял кшталту "Санта-Барбары" (у галоўных ролях — актывісты Маладога Фронту).



Рок-канцэрт сабраў багата моладзі. І ня дзіўна, бо можна было пачуць "Мясцовы час", зірнуць на "Новае неба", павітаць воплескамі "Уліс", ну, і канешне ж, "папартызаніць" з N.R.M. Апошнія, дарэчы, настолькі завялі натоўп, што нават пасьля акцыі ўжо па-за сквэрам фаны бязладна гарлапанілі песенькі з рэпэртуару гурта.

Ля сцэны ж маладафронтаўцы трымалі партрэты Аляксея Шыдлоўскага і Паўла Севярынца. А выступоўцы сьпявалі ў гонар вязьняў сумленьня.

І луналі над натоўпам нацыянальныя сьцягі. І сумнаватамудрым позіркам глядзеў на ўсё гэта застылы ў камяні пясьняр. Ён, Купала, калісьці таксама зьведаў лёс вязьня — духоўнага вязьня таталітарнае сыстэмы. Няўжо Беларусь вернецца ў жахлівую мінуўшчыну?

Не, ня вернецца! Бо тая моладзь, што йдзе сёньня пад бел-чырвона-белымі штандарамі, трывала засвоіла Купалаў запавет — "людзьмі звацца!".



**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

# МЫ ЗМАГАЕМСЯ, І МЫ ПЕРАМОЖАМ

*менавіта гэты лёзунг быў стрыжнем усіх апошніх акцыяў у падтрымку палітвязьняў*

Арышт лідара Маладога Фронту Паўла Севярынца выклікаў хвалю пратэстаў ня толькі ў Менску, але й па ўсёй Беларусі. Ня гледзячы на высілкі ўладаў, краіна ўпарта не жадала замірыцца са зьняволеньнем аднаго зь лепшых сваіх сыноў. "Свабоду Севярынцу!"— гэтыя два словы сталі страшнейшыя для рэжыму, чым нават традыцыйныя "Далоў Луку!" ды іншыя маладзёвы лёзунгі. Гэтых два словы пачалі зьяўляцца адразу пасьля арышту лідара Маладога Фронту на платох і мурох у кожным горадзе й мястэчку, на значках і ўлётках, яны глядзелі са старонкаў незалежных выданьняў. Іх і зараз можна пабачыць на партах у школках і ВНУ. І, зразумела, два гэтых слова можна было прачытаць на плякатах пікетоўшчыкаў.

24 красавіка адзін са шматлікіх пікетаў у падтрымку Паўла Севярынца адбыўся ў Наваполацку. Удзельнікі — сябры Маладога Фронту і БНФ — трымалі плякаты наступнага зьместу: "Усіх не перасаджаеце!", "Сёньня ён — заўтра ты!" і, натуральна, "Свабоду Севярынцу!". Амаль гадзіну шматлікія мінакі й нешматлікія карэспандэнты, часам ведучы размовы зь пікетоўшчыкамі, назіралі за мірнаю хадой акцыі. У некаторых нават пачалі зьяўляцца спадзяваньні, што гэтым разам абыйдзецца без канфліктаў з уладамі. Якіх, маўляў, цудаў не бывае...

Менавіта такіх, як у чарговы раз пацьвердзіла жыцьцё, не бывае. Першым быў затрыманы фатограф. У адказ на тлумачэньні, што ён удзелу ў пікеце ня браў, міліцыянты вырвалі зь ягоных рук фатакамэру й засьвятлілі стужку — установка на блякаваньне інфармацыі пра Севярынца мусіла быць выкананай у першую чаргу. Потым былі затрыманыя Зьміцер Салаўёў, Алесь Бандарэнка і Анатоль Каханчык. Апэрацыяй захопу кіраваў невядомы маёр міліцыі, які ўвогуле не разумеў беларускае мовы, злаваў і гістэрычна лямантаваў: "Гаварите па-руски, я вас ни панимаю!" Затое ўсё выдатна зразумелі выпадковыя сьведкі акцыі "ахоўнікаў парадку". Яны моўчкі апускалі вочы долу й нэрвова крочылі прэч.

Затрыманых адвезьлі ў пастарунак, дзе старэйшы леўтэнант міліцыі Зарэцкі склаў на іх пратаколы, даў азнаёміцца й падпісаць.

20 траўня адбыўся суд. Усе пікетоўшчыкі атрымалі папярэджаньні. Дарэчы, падчас суду высьветлілася, што ва ўжо падпісаныя пратаколы пазьней былі ўнесеныя зьмены. Так, дробязь, але мэтады дзеяньняў "праваахоўчых" органаў ілюструе выдатна.

Барацьба за вызваленьне не магла быць спыненая аніякімі рэпрэсіямі, і яна прывяла да перамогі. Аднак мы незабываемся на яшчэ аднаго зьняволенага маладафронтаўца — Аляксея Шыдлоўскага.

Мы змагаемся, і мы пераможам!

Жыве Беларусь!

## СЛУЖБА 01 ПАВЕДАМЛЯЕ:

"Ад словаў да справы!"— пад такім дэвізам адбылася чарговая правакацыя, якую зьдзейсьнілі невядомыя маладыя людзі на пляцы Незалежнасьці ў панядзелак, 20 красавіка. Напэўна, яе ўдзельнікам надакучыла млявая крытыка дзяржаўнае прэсы з боку апазыцыянэраў і яны вырашылі, што час вымагае новых кшталтаў дэманстраваньня свайго стаўленьня да "чэсных" выданьняў. Параіўшыся міжсобку, нявызначаныя асобы вырашылі, што крытыка друкаваных органаў улады зьнікне разам са зьнішчэньнем ейнага аб'екту. Як кажуць, няма газэты — няма праблемы. І вось невядома адкуль у руках зьвіліся апошнія нумары "Знамяюностей" і "Совбелоруссий", а таксама злавеснага выгляду запальнічкі. Намер непаўналетніх дывэрсантаў стаўся відавочным. Празь невялічкі прамежак часу нешматлікія менчукі, што тусаваліся на пляцы ў той час са зьдзіўленьнем назіралі за ўдзельнікамі акцыі, што трымалі ў руках палаючыя паходні ў якіх яшчэ можна было пазнаць прадукцыю дзяржаўнага друку. За некалькі хвілінаў агонь абярнуў у попел газэты, а іхныя парэшткі былі ўрачыста пакладзеныя да помніка Леніну. Пасьля юныя падпальнікі з апэратыўнасьцю, якой магла б пазайздросьціць любая спэцслужба, зьніклі ў паветры.



Дарэчы, мент, што стаяў пад елкай і смаліў цыгарэтку, на акцыю не зьвярнуў аніякае ўвагі. Мабыць паступіў загад — на правакацыі не паддавацца.

**FIREMAN.**

# НАШАЯ ДЗЯРЖАВА

*адказы на пытаньні ў сувязі з кампаніяй грамадзянства БНР*

*Адной з самых значных кампаніяў, якімі займаюцца зараз Малады Фронт і БНФ ёсьць запіс у грамадзянства Беларускае Народнае Рэспублікі. Бадай, галоўнаю перашкодай на гэтым шляху можна назваць брак інфармацыі пра БНР. Дык, што ж гэта за БНР і навошта быць яе грамадзянінам?*

**Беларуская Народная Рэспубліка** — гэта беларуская дзяржава, утвораная беларусамі, на Першым Беларускім Кангрэсе, удзел у якім узялі прадстаўнікі ўсяе этнаграфічнае Беларусі ад Беласточчыны да Смаленшчыны. Рэспубліка была юрыдычна прызнаная шэрагам эўрапейскіх краінаў, а таксама Турэччынай. Неафіцыйнае ж, але фактычнае прызнаньне БНР мела практычна ўва ўсёй Эўропе. На жаль, беларускія вайсковыя часткі, якія пачалі ўтварацца падчас развалу Расейскай імпэрыі, знаходзіліся галоўным чынам даволі далёка ад Радзімы (прыкладам Румынскі фронт), і таму Ўрад БНР ня меў магчымасьцяў для арганізацыі эфэктыўнай абароны краіны. Пасьля замацаванай Рыскім трактатам бальшавіцка-польскай акупацыі Беларусі, Урад вымушаны быў эміграваць у Летуву, а потым у Чэха-Славаччыну, яшчэ пазьней у Амэрыку. Кіраўніцтва БНР каардынуе працу беларускіх асяродкаў замежжа, падчас абодвух Ўсясьветных войнаў арганізоўвала дапамогу беларускім уцекачом і ваеннапалонным. Неабходнасьць мець стасункі з камуністычнай імпэрыяй прымушала заходнія дзяржавы ўстрымлівацца ад юрыдычнага прызнаньня БНР, але Ўрад меў і мае зараз значны аўтарытэт, і карыстаецца падтрымкай афіцыйных асобаў у ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Нямеччыне ды іншых краінах.



**Чым дарагая Беларуская Народная Рэспубліка для беларусаў?**

БССР, а потым РБ былі ўтвораныя без рэальнага прадстаўніцтва беларускага народу, пад моцным ціскам, але бяз значнага ўдзелу сапраўдных беларускіх патрыётаў-нацыяналістаў. Ня дзіва, што ўся цяперашняя дзяржаўная сыстэма Рэспублікі Беларусь прапітаная расейскім шавіністычным ды дыктатарскім камуністычным духам. Не выпадкова, з гэтага гледзішча, атрымліваецца й скасаваньне беларускае нацыянальнае сымболікі на карысьць каляніяльна-бальшавіцкай, і мэтадычнае зьнішчэньне беларускае мовы, і проста вынішчэньне беларусаў (тут вам ка-

# І ГЭТЫ ГОРАД БУДЗЕ НАШ!

Лета — час адпачынку. Але сябры Маладога Фронту ўжо звykліся зтым6 што адпачываць трэба паміж чатырох сьценаў, але на вольным паветры. І вось 20 чэрвеня дэсант маладафронтаўцаў зь Менску высадзіўся ў горадзе Маладэчна, дзе ў гэты час праходзіла кульмінацыйная імпрэза фэстывалю беларускае песьні й паэзіі — рок-канцэрт з удзелам такіх вядомых гуртоў, як Палац, Крыві, Tornado, Крама, Hasta La Fillsta, Уліс і NRM. Натуральна, ніхто й не заўважыў, што ў афішах маленечкімі літаркамі быў пазначаны хор імя Цітовіча, які, як высьветлілася, і быў галоўным "цьвіком" праграмы. Здаецца нідзе ў сьвеце яшчэ не дапялі да такіх авангардовых сумесяў, але ў нас, пасьля такіх сьмелых ідэяў, як рынкавы сацыялізм ды праваслаўны атэізм, магчымыя й не такія варыянты. Тым больш, што вядучыя паабяцалі не спыняць сваіх творчых досьледаў. Зрэшты, гэтая недарэчнасьць не сапсавала настрою ні менчукам, ні мясцовым рок-фэнам.

Вядома, што ніводнае афіцыйнае мерапрыемства ня можа абыйсьціся без прадстаўнікоў такіх меншыняў як "блакітныя" і "чырвона-зялёныя". Апошнія, прадчуваючы свае праблемы, сталі шчыльнаю купкай (паблізку да міліцыянтаў), і праяўлялі актыўнасьць толькі, калі на іх наяжджаў апэратарскі кран з камэрамі БТ. Для якога, трэба меркаваць, іх і прывезьлі. Дарэчы, забягаючы наперад, зазначым, што прадчуваньні ў "кінастатыстаў" былі правільныя — хтоніхто зь іх пазнаёміўся з актыўнай рэакцыяй прыхільнікаў беларускае музыкі на чырвона-зялёныя спалучэньні колераў.

Што датычыцца мянтоў... Які сюрпрыз! Гэта былі нашыя менскія амонаўцы! Мабыць, не давярае начальства мясцовай міліцыі. Пазналі і яны нас — восем актывістаў Маладога Фронту адразу былі зацягнутыя ў пастарунак. Потым было яшчэ колькі рэйдаў з мэтай ачысьціць савецкую атмасфэру ад беларускае заразы. Але не дапамагло, бо гэтая зараза проста зь зямлі тут расьце. Падчас атакаў амонаўцы арыентаваліся на бела-чырвонае. І ў выніку забралі колькі чалавек з бела-чырвонымі парасонамі.

Нягледзячы ні на што, маладафронтаўцы працягвалі заводзіць натоўп традыцыйнымі беларускімі клічамі, і праз нейкі час "блакітныя" пачалі сустракаць супраціў з боку маладэчанскае моладзі. Урэшце рэштаў, нават вядучы ня стрымаўся і скончыў імпрэзу словамі "Жыве Беларусь!".

Беларусаў не стрымаць — яшчэ раз даказаў Малады Фронт.




# НАШАЯ ДЗЯРЖАВА

*пачатак на стар. 7*

тарга і расстрэлы, сталінская тактыка "выпаленае зямлі" падчас Другой усясьветнай, асаджваньне савецка-расейскімі ваенна-паветранымі сіламі радыяцыйных аблокаў на Магілеўшчыне, разьмеркаваньне студэнтаў у заражаныя раёны і шмат чаго іншага).

Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчаная дэлегатамі ўсіх беларускіх земляў і таму ёсьць легітымнаю з гледзішча міжнароднага права. БНР сваёй дзейнасьцю зарабіла высокі аўтарытэт сярод сьведамых беларусаў і ў заходнім грамадзтве. Усю сваю гісторыю БНР кіруецца прынцыпамі дэмакратычнасьці і беларускага Адраджэньня. Такім чынам, Беларуская Народная Рэспубліка — утварэньне чыста беларускае і дэмакратычнае, ды мае ўсе магчымасьці дзеля юрыдычнага прызнаньня з боку сусьветнае грамадзкасьці, а значыць і вяртаньня рэальнае ўлады ў Беларусі.

**Ці былі ў гісторыі прыклады падабных вяртаньняў?**

Былі. Сёньняшнія прыбалтыйскія рэспублікі і ёсьць узноўленымі дзяржаўнымі ўтварэньнямі, што йснавалі да савецкае акупацыі.

**Як мы можам паспрыяць аднаўленьню ўлады БНР?**

Мы павінныя прадэманстраваць сваю падтрымку і прызнаньне Беларускае Народнае Рэспублікі. Зрабіць гэта вельмі проста — стаць грамадзянінам БНР. Дзеля гэтага трэба зьвярнуцца ў бліжэйшую суполку БНФ альбо МФ, атрымаць там блянк заявы і запоўніць яго. Пасьля рэгістрацыі, на працягу некаторага часу вы атрымаеце пасьведчаньне пра рэгістрацыю. На будучыню плянуецца і сапраўдная пашпартызацыя грамадзянаў БНР. Вашае новае грамадзянства аніяк не перашкодзіць вам карыстацца для вымушаных дачыненьняў з лукашэнкаўскай уладай сваім эрбэшным пашпартам.

Далучайцеся да кампаніі грамадзянства БНР. Станьце грамадзянамі сапраўднае беларускае дзяржавы.

Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Гэтае выданьне, ягоны рэдактар, усе аўтары, а нават вы ёсьць вымышленымі, няіснымі ў сапраўднасьці анімацыйнымі пэрсанажамі. Усялякае супадзеньне з рэчаіснасьцю выпадковае.